


THE NEW 52! #0

# The FLASH®

NOV 2012

.BY
COMICS
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

ФЛЭШ
#0 (2011)
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

RATED T TEEN

DCCOMICS.COM

FRANCIS
MANAPUL
BRIAN
BUCCELLATO

# WHO'S WHO IN THE NEW 52!




## САМЫ ХУТКІ ЧАЛАВЕК У СВЕЦЕ!



## ФЛЭШ

**Першае з'яўленне:**
Флэш #1 (2011)

**Месца дзеяння:**
Цэнтрал Сіці

**Здольнасці:**
Падключыўшыся да Спідфорса, Флэш можа рухацца з хуткасцю, блізкай да хуткасці святла. Бары Ален эксперыментаваў з усім спектрам сваіх сіл, уключаючы і тое, як яны ўплываюць на яго ўспрыманне і працэсы мыслення. . . і атрымаў нечаканыя вынікі.

**Дасье:**
Бары Алена, вучонага, які працуе на паліцыю, ударыла маланка, калі ён быў у лабараторыі, і, да ўсяго іншага, праліла на яго шмат розных хімікатаў. Дзякуючы гэтаму здарэнню ён атрымаў магчымасць перамяшчацца з неверагоднай хуткасцю. Хутка Бары даведаўся, што прычынай гэтых сіл стала яго сувязь з міжпрасторавай энергіяй, якая называецца Спідфорс. Такім чынам ён убачыў магчымасць скарыстоўваць сваю здольнасць у выгоду, і так пачаліся яго прыгоды ў ролі Флэша.

Нават такому герою, як Флэш, давялося сутыкнуцца з вялікай колькасцю злачынцаў, якія згуртаваліся супраць яго. Тая група, вядомая як “Нягоднікі”, і ўключае ў сябе Майстра Люстэркаў, Цеплавую Хвалю, Залатую Глайдэр, Надворнага Чарадзея, Пайда Пайпера і Капітана Холада. Канфлікты з Нягоднікамі і з Гарылай Гродам адцягнулі Бары ад злачынства, якое ён больш за ўсё жадае раскрыць: забойства яго маці, у якім, хутчэй за ўсё, вінаваты бацька. Ці хопіць у Бары ведаў, каб выкрыць гэту загадку? Ці дастаткова ён хуткі, каб знайсці ісціну, пакуль яна ня знікла?


ЦЭНТРАЛ СІЦІ. ПЯЦЬ ГАДОЎ ТАМУ.
"ЧАМУ ТЫ ЗНОЎ ТУТ, БАРЫ?"


Я Ж ПРАСІЎ ЦЯБЕ НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ.
А ТЫ ПРАЧАСАЎ ЯЕ СПРАВУ. ЗНОЎ. І НІЧОГА НЕ ЗНАЙШОЎ. **ЗНОЎ**.
СЁННЯ ЮБІЛЕЙ МАЦІ... Я РАБЛЮ ЎСЁ ГЭТА **КОЖНЫ** ГОД.
ТАТА, РАНА ЦІ ПОЗНА Я **ЎСЁ РОЎНА** ШТО-НЕБУДЗЬ ЗНАЙДУ І ВЫЦЯГНУ ЦЯБЕ АДСЮЛЬ.
НАВУКА ЗРАБІЛА КРОК НАПЕРАД, КОЖНЫ ГОД З'ЯЎЛЯЮЦЦА НОВЫЯ СПОСАБЫ ПРАВЕРЫЦЬ ДОКАЗЫ.


"ХОПІЦЬ **РАБІЦЬ** ГЭТА З САБОЙ, СЫН.ТЫ НЕ ПАВІНЕН ДАЗВАЛЯЦЬ МІНУЛАМУ ТАРМАЗІЦЬ ЦЯБЕ".
"**Я** ЗНЯВОЛЕНЫ Ў ТУРМЕ... АЛЕ **ТЫ** ЖЫВЕШ ТАК, БЫЦЦАМ САМ ЗНАХОДЗІШСЯ ЗА КРАТАМІ".


ТАБЕ ТРЭБА РУХАЦЦА ЎПЕРАД. ТЫ НІКОЛІ НЯ ЗНОЙДЗЕШ ТОЕ, ШТО ЗМОЖА ДАКАЗАЦЬ МАЮ НЕВІНАВАТАСЦЬ.
НЕ ГУБЛЯЙ НАДЗЕЮ. Я **ЗНАЙДУ**...
**ХОПІЦЬ,** БАРЫ. ПРО-СТА СПЫНІСЯ. ТЫ...
ТЫ І ТАК ПАТРАЦІЎ ШМАТ ЧАСУ... НА ВІНАВАТАГА.

"Я ЗАБІЎ ТВАЮ МАЦІ".

ТА-КОООООООМ

А ГЭТА ТАЯ ЧАСТКА, ДЗЕ Я ПАМІРАЮ.

ХОЦЬ У МЯНЕ І ТРАПІЛА ГЭТА МАЛАНКА, А ХІМІКАТЫ ПЯКУЦЬ МАЮ СКУРУ...

МЕНАВІТА СЛОВЫ ТАТЫ ВЫНЕСЛІ МНЕ СМЯРОТНЫ ПРЫСУД.

Я АДЧУВАЮ, ШТО ПАСЛІЗГВАЮСЯ. УСЁ АДЫХОДЗІЦЬ У НЯБЫТ... АКРАМЯ МАЁЙ ПАМЯЦІ... ЯЕ БАЧНА ВЫРАЗНА. УСЁ ЖЫЦЦЁ ВЫБУХАМ ПРАНОСІЦЦА ПЕРАД МАІМІ ВАЧАМІ.

BELOVED MOTHER
NORA
ALLEN

УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС... Я АДМАЎЛЯЎСЯ ВЕРЫЦЬ У ГЭТА, МАЦІ.

НАВАТ КАЛІ МНЕ СКАЗАЛІ, ШТО ГЭТА ЗРАБІЎ ТАТА.

E LINE DO

НАВАТ КАЛІ Я ЗАЎВАЖЫЎ, ЯКІ ЁН БЫЎ ЗЛЫ.

ДЛЯ МЯНЕ ЎСЁ ГЭТА НЯ МЕЛА СЭНСУ. ЯК МОГ ТАТА, ЯК МОГ ХТО-НЕБУДЗЬ ЗРАБІЦЬ З ТАБОЙ ТАКОЕ?

АЛЕ Я МЯРКУЮ, ШТО ХУТКА МЫ СУСТРЭНУСЯ З ТАБОЙ, МАЦІ...

...Я ХУТКА З ТАБОЙ СУСТРЭНУСЯ.

У ЛАБАРАТОРЫІ ЎСЕ ЎСХВАЛЯВАНЫ. ВЕДАЮ, УСЕ МЫ Ў ЛАБАРАТОРЫІ ПАДЖАРТОЎВАЛІ З ЦЯБЕ ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ ТАКІ МАЛАДЫ І З'ЯЎЛЯЕШСЯ "ЛЮБІМЧЫКАМ" КАПІТАНА ФРАЯ...

АЛЕ МЫ НА САМОЙ СПРАВЕ ПЕРАЖЫВАЕМ ЗА ЦЯБЕ, ХЛОПЕЦ. КАЛІ ТЫ МЯНЕ ЧУЕШ, СЯБАР, ЗРАБІ ЛАСКУ...

АЧУНЬВАЙ ХУТЧЭЙ.




* КАРЭ-КАРЭ – ФІЛІПІНСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ СТРАВА.



ТЫ **ЎПЭЎНЕНА**, ШТО З-ЗА ГЭТАГА ГАЛЬШТУКА-БАБАЧКІ Я НЕ ВЫГЛЯДАЎ ПОЎНЫМ БОТАНАМ?

ЗУСІМ НЕ. ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ ВЕЛЬМІ МОД-НА!









ГЭТА НЕДАРЭЧНА... Я Ж НАВАТ ІСЦІ ТУДЫ НЕ ЖАДАЮ.

ТАБЕ НЯМА З-ЗА ЧАГО НЕРВАВАЦЦА, БАРЫ. ТЫ ЗДОЛЕЕШ. ВЕДАЕШ, ЧАМУ?

ЧАМУ?

ТАМУ ШТО ТЫ ШЧАСЛІВЫ. А ШТО Я КАЖУ ПРА ЎДАЧУ?

УДАЧА АДБЫВАЕЦЦА ПРЫ СПАЛУЧЭННІ ПАДРЫХТОЎКІ З ПРЫХІЛЬНАЙ МАГЧЫМАСЦЮ.

**ДАКЛАДНА.** А ТЫ РЫХТАВАЎСЯ НЕКАЛЬКІ ТЫДНЯЎ.

КАЛІ ТЫ ПАДНІМЕШСЯ НА ТРЫБУНУ, І ТАБЕ ДАДУЦЬ СЛОВА – НЕ СПЯШАЙСЯ.


ПАЧАКАЙ... НЕ СПЯШАЙСЯ...
АБМЯРКУЙ УСЁ І ТЫ ЗНОЙДЗЕШ АДКАЗ.
ДОБРА. АЛЕ КАЛІ Я **ПАМЫЛЮСЯ** НА ПЕРШЫМ СЛОВЕ?
ТАДЫ ПРЫДЗЕШ ДАДОМУ РАНЕЙ.
ТЫ САПРАЎДЫ НЯ ЗМОЖАШ ПАЙСЦІ СА МНОЙ, МАЦІ?


Я Б ЖАДАЛА, МІЛЫ.
ПАСПЯШАЙСЯ, БАРЫ.
НАМ ТРЭБА ІСЦІ.


ДОБРА.
ПОС-ПЕХАЎ!
ДЗЯКУЙ! КАХАЮ ЦЯБЕ, МАЦІ!
ТЫ ЎПУСЦІЛА Ў НАША ЖЫЦЦЁ **НЕ-ЗНАЁМЦА** І ВОСЬ ТАК ПРОСТА КА-КАЖАШ МНЕ ГЭТА?
УСЁ З-ЗА **ЯГО**, ТАК?
НЕ... З-ЗА **НАС**.
ДУМАЕШ, Я ТАК ПРОСТА ЦЯБЕ АДПУШЧУ?
Я ПАКУЛЬ НЕ МАГУ ПАЙСЦІ, ГЕНРЫ. У МЯНЕ ПАДВОЙНАЯ ЗМЕНА. РАНІЦАЙ Я ВЯРНУСЯ.

БАРЫ.
УРАЧ КАЖА, ШТО ТВАЕ АПЁКІ ГОЯЦЦА. ХУТЧЭЙ, ЧЫМ ЁН КАЛІ-НЕБУДЗЬ БАЧЫЎ.
ТЫ ВЫДАТНА СПРАЎЛЯЕШСЯ... А ЦЯПЕР ТАБЕ ТРЭБА ТОЛЬКІ АПРЫТОМЕЦЬ.
Я ЖАДАЮ ПАДЗЯЛІЦЦА З ТАБОЙ НЕКАТОРЫМІ НАВІНАМІ. УВОГУЛЕ, ВЕЛЬМІ ЦУДОЎНЫЯ НАВІНЫ... АЛЕ Я ЖАДАЎ, КАБ ТЫ ПАЧУЎ ІХ. ЖАДАЮ, КАБ ІХ ПАЧУЛА МАЯ **СЯМ'Я**.




Я **АТРЫМАЎ** ПАСАДУ **КАПІТАНА**!
І ГЭТА НЕ ЎСЁ... ЯНЫ ДАЛІ МНЕ ДАЎНТАЎН... ПЕРАВЯЛІ Ў ТВОЙ УЧАСТАК. ЦЯПЕР Я ТВОЙ НОВЫ КАПІТАН, СЫНОК. ТЫ МОЖАШ У ГЭТА ПАВЕРЫЦЬ? "КАПІТАН ДЭРЫЛ ФРАЙ". ГУЧЫЦЬ ВЫДАТНА, ТАК ЖА?
ТЫ ПАВІНЕН БЫЎ БАЧЫЦЬ ГЭТА, БАРЫ. Я БЫЎ ЯК НА ІГОЛКАХ... Я НАВАТ ЗНАЧОК СВОЙ НАЧАПІЎ ДАГАРЫ НАГАМІ!












НУ І ЯК МОЙ ХЛОПЧЫК ТРЫМАЎСЯ НА "ГАВОРАЧАЙ ПЧОЛЦЫ"?
МАМ!











**НАПЭЎНА,** Я ПАМЁР…

БАЧУ, ЯК УСЁ МАЁ ЖЫЦЦЁ ВЫБУХАМІ ПРАНОСІЦЦА ПЕРАД ВАЧАМІ. МАЕ ДУМКІ НЕКУДЫ ІМПЭТНА ІМЧАЦЦА… НАВАТ РАЗАБРАЦЬ ІХ НЕ МАГУ. Я БЫЦЦАМ У ПАСТЦЫ.

АЛЕ Я АДЧУВАЮ ЯЕ. МАБЫЦЬ Я ЎЖО НЕДАЛЁКА. Я АМАЛЬ ТУТ, МАЦІ.

ДЗІЎНЫЯ ПАЧУЦЦІ. Я АМАЛЬ НЕРУХОМЫ… У ПАСТЦЫ. АЛЕ ЎНУТРЫ… Я ЖАДАЮ ПАДАРВАЦЬ АБАЛОНКУ ЗНУТРЫ. ПРАЗ МЯНЕ ПРАХОДЗІЦЬ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ…

І ЯНА ШУКАЕ ВЫХАД… ЖАДАЕ ВЫРВАЦЦА НА ВОЛЮ…

“**НЕ!** НЕМАГЧЫМА…”

…Я ВАМ **НЯ ВЕРУ**! Я ЖАДАЮ ПАБАЧЫЦЬ СВАЮ **МАЦІ**!





















КАЛІ ТАТА СКАЗАЎ, ШТО ЁН НЕ РАБІЎ ГЭТА, Я БЫЎ У ТА-КОЙ РОСПАЧЫ, ШТО ПАВЕРЫЎ ЯМУ...

УСЁ ЖЫЦЦЁ Я СПРАБАВАЎ ДАКАЗАЦЬ ЯГО НЕВІНАВАТАСЦЬ.






ДОКАЗЫ, **МАБЫЦЬ,** ПАМЫЛКОВЫЯ... ТАМУ ШТО Я НЯ МОГ СТРАЦІЦЬ ІХ АБОДВУХ.

Я ПРЫСВЯЦІЎ СВАЮ КАР'ЕРУ... УСЁ ЖЫЦЦЁ... НА ПОШУКІ ІСЦІНЫ.



МАЦІ... ТАТА... Я...

ВЫ... ПАТРЭБНЫ МНЕ...

БАРЫ, КАЛІ ЛАСКА... МЯНЕ ЗАВУЦЬ **ДЭРЫЛ ФРАЙ**. Я ВЕДАЎ ТВАЮ МАЦІ, І ЯНА...

ЯНА Б НЕ ЖАДАЛА, КАБ ТЫ ЗАРАЗ БЫЎ **АДЗІН**.

ПОЙДЗЕМ АДСЮЛЬ, ДОБРА?

АЛЕ КАЛІ ЎСЁ ГЭТА БЫЛО ХЛУСНЁЙ...

ГОРЫ ВІРУНГА, УСХОДНЯЯ АФРЫКА.

ЧАМУ МОЙ ТАТА... І ДЭРЫЛ ДАЗВАЛЯЛІ МНЕ ТАК ДОЎГА ГЭТЫМ ЗАЙМАЦЦА?

У ЧЫМ БЫЎ СЭНС?

ШТО Я РАБЛЮ...

...І **ДЗЕ** Я, ЧОРТ ДЗЯРЫ?

“САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ У КРАІНУ ЖЫВЫХ...”

ПРАЗ ДВА ТЫДНІ.

ЦЯБЕ ЎДАРЫЛА МАЛАНКА, А ТЫ ЎЖО НА НАГАХ, ДЫ ЯШЧЭ І БЕГАЕШ. ТЫ НАС ВЕЛЬМІ НАПУЖАЎ, БАРЫ.

АДЧУВАЮ СЯБЕ САМЫМ УДАЧЛІВЫМ ЧАЛАВЕКАМ У СВЕЦЕ.

**ХАХ**! НЕ ЎСЕ, ХТО ПРАЙШОЎ ПРАЗ ТАКОЕ, МОГУЦЬ СКАЗАЦЬ ТОЕ Ж САМАЕ.

ТЫ НА САМОЙ СПРАВЕ ЎМЕЕШ АДБІВАЦЬ КРУЧАНЫЯ МЯЧЫ, ЯКІЯ Ў ЦЯБЕ ШПУРЛЯЕ ЖЫЦЦЁ.

ЛЁГКА ТРЫМАЦЦА НА ПЛАВУ, КАЛІ ЦЯБЕ ПАДТРЫМЛІВАЕ СЯМ'Я. ТЫ МНЕ ЗАЎСЁДЫ КАЗАЎ, ШТО ЛЮДЗІ ІЛГУЦЬ, А ДОКАЗЫ КАЖУЦЬ ІСЦІНУ.

І НА ПРАЦЯГУ ЎСІХ ГЭТЫХ ГАДОЎ, КАЛІ Я НА ЎСЕ ЖЫЛЫ ІМКНУЎСЯ ДАКАЗАЦЬ НЕВІНАВАТАСЦЬ БАЦЬКІ... ТЫ НІКОЛІ НЕ ПРАСІЎ МЯНЕ КІНУЦЬ ГЭТУ СПРАВУ.

Я НЯ ВЕЛЬМІ ДОБРЫ Ў РАЗМОВАХ, ДЭРЫЛ... АЛЕ ДЛЯ МЯНЕ ТЫ БАЦЬКА АНІ НЯ МЕНШ, ЧЫМ ГЕНРЫ... НАВАТ, МОЖА, І БОЛЬШ...

ВЕДАЕШ, ЛЮДЗІ ЛІЧАЦЬ, ШТО Я ЗРАБІЎ ТАБЕ ЛАСКУ, УЗЯЎШЫ ЦЯБЕ ДА СЯБЕ, АЛЕ ТЫ ДАЎ МНЕ ШМАТ ЧАГО, БАРЫ.

ТЫ ДАЎ МНЕ ПРЫЧЫНУ БЫЦЬ ЛЕПЕЙ. СТАЦЬ ДОБРЫМ КОПАМ. Я ЖАДАЎ БЫЦЬ ПРЫКЛАДАМ...

Я СТАЎ КАПІТАНАМ ДЗЯКУЮЧЫ ТАБЕ.

**КАПІТАН**... ЯК ТАБЕ НА ГЭТАЙ ПАСАДЗЕ?

НЯДРЭННА, АЛЕ ВЕЛЬМІ ДЗІЎНА. НЕ МАГУ ПРЫВЫКНУЦЬ ДА КАСЦЮМАЎ, ТАМУ ШТО Я ПРЫВЫК ДА ФОРМЫ. ЁСЦЬ НЕШТА Ў ГЭТАЙ ФОРМЕ І Ў ЗНАЧКУ...

ЛЮДЗІ БАЧАЦЬ ІХ І АДРАЗУ РАЗУМЕЮЦЬ, ШТО ТЫ АБАРОНЦА ЗАКОНА... ТЫ ТУТ, КАБ СЛУЖЫЦЬ І АБАРАНЯЦЬ. ГЭТА СІМВАЛЫ, ЯКІЯ АДСТОЙВАЮЦЬ ДАБРО, ЯКОЕ ТАК НЕАБХОДНА ГЭТАМУ СВЕТУ.

У МЯНЕ ЁСЦЬ ШТОСЬЦІ ДЛЯ ЦЯБЕ...

ВАЎ... ГЭТА Ж ЗНАЧОК, ЯКІ Я НАСІЎ У ПАЧАТКУ СЛУЖБЫ. ДЗЕ ТЫ ЯГО ЗНАЙШОЎ?

CENTRAL CITY OFFICER

ВЫПАДКОВА НАТРАПІЎ НА ЯГО ПАДЧАС СВАІХ **ПОШУКАЎ**.

ГЭТЫ ЗНАЧОК ВЕЛЬМІ ШМАТ ЗНАЧЫЦЬ ДЛЯ ДЭРЫЛА. ЦЯПЕР МАЯ ЧАРГА ЗНАЙСЦІ НЕШТА ПАДОБНАЕ.

МНЕ СПАТРЭБІЛАСЯ НЕКАЛЬКІ СПРОБ. ГЭТЫЯ ПОШУКІ БЕЗУМОЎНА НЕ ПАДОБНЫЯ НА ТЫЯ, ЯКІЯ ПАКАЗВАЮЦЬ У ФІЛЬМАХ. ЗВЫЧАЙНЫЯ ТРЫКО НЕ ПАДЫДУЦЬ.

НЕ ДЛЯ МЯНЕ.

МНЕ ТРЭБА НЕШТА ТРЫВАЛЕЙ. НЕШТА НАКШТАЛТ БРАНІ.

ВІДАВОЧНА, МЕТАЛ ДЗІЎНА РЭАГУЕ ПОБАЧ СА МНОЙ...

БЫЦЦАМ НЕЙКАЯ МОЦ АХІНАЕ МАЮ ХУТКАСЦЬ, СТВАРАЮЧЫ ЦЕПЛАВОЕ РАСШЫРЭННЕ.

ГЭТА ТАК **ФАЙНА**...

НЯ ДУМАЎ, ШТО ТЫ ВЕРНЕШСЯ.

ЖАДАЮ СКАЗАЦЬ ТАБЕ, ШТО Я Ў ПАРАДКУ... І ШТО ТЫ МЕЮ РАЦЫЮ.

РАДЫ ГЭТА ЧУЦЬ.



Я ВЕЛЬМІ ДОЎГА ЧАПЛЯЎСЯ ЗА МІНУЛАЕ. МНЕ БЫЛО НЕАБХОДНА, КАБ ТЫ БЫЎ НЕВІНАВАТЫ.

А ЦЯ-ПЕР?







А ЦЯПЕР Я ГЛЯДЖУ ЎПЕРАД.





ЗНАЧЫЦЬ, Я БАЧУ ЦЯБЕ У АПОШНІ РАЗ?

ГЭЙ, ШЭФ, МАБЫЦЬ АСЛАБІШ НАРУЧНІКІ?




ДВА ДНІ ТАМУ.
НЯДРЭННЫ ЎЛОЎ, А?!
ДАВАЙ ПАКУЛЬ НЯ БУДЗЕМ ЛІЧЫЦЬ НАШЫ ГРОШЫКІ...


НУ ЖА, ХЛОПЦЫ, ВАРУШЫ-ЦЕСЯ!
РАССЛАБ-СЯ, НАВІЧОК, Я ВЫЙГРАЎ ДЛЯ НАС ТРОХІ ЧАСУ.


ТЫ Ж НЕ...
Я НІКОГА НЕ ЗАБІВАЎ, **ДЭНІ**. ПРОСТА САЧЫ ЗА ДАРОГАЙ...


...І МЫ НЕПРЫ-МЕТНА АДЧАЛІМ АДСЮЛЬ.


ВАРУ-ШЫСЯ...
OOOF!
ГЭЙ!!!
УМФ!
ВЫКЛІКАЮ ДАПАМОГУ, ДЭНІЭЛ УЭСТ СУПРАЦІЎЛЯЦЦА...




Я Ж СКАЗАЎ, ШТО НАРУЧНІКІ БЫЛІ... УФФ... ВЕЛЬМІ ТУГА ЗАЦЯГНУТЫ!


БАРЫ!




ПРАБАЧ, ПРЫЯЦЕЛЬ, АЛЕ ГЭТА НЕ ВАРЫЯНТ.
А?


Я ЎЛАДКУЮ ТАБЕ САПРАЎДНАЕ ПЕКЛА, ХЛОПЕЦ!
SLAM



ТЫ МОЖАШ ЕХАЦЬ ХУТЧЭЙ, **ДЭНІ**?

У **ЦЯБЕ** Ж ДЗЁЎБАНЫ КУЛЯМЁТ! ВАЛІ ЯГО!!!

**ШТО** ВАЛІЦЬ, А? ГЭТА ПРОСТА НЕЙКАЯ ДЗЁЎБАНАЯ **ЧЫРВОНАЯ ПЛЯМА**!!!

БОЛЬШ ПАДОБНА НА **ЎСПЫШКУ**. ЦЯПЕР Я **НАЗАЎСЁДЫ** ЎЗЯЎ САБЕ ТАКОЕ ІМЯ – **УСПЫШКА, ФЛЭШ**!


НЕ,
ТАТА.


НЕ ТАКІМ ЧЫ-НАМ.
НАВАТ КАЛІ Б Я МОГ... ТЫ Ж МНЕ НЕ ДАЗВОЛІШ УЦЯЧЫ, ПРАЎДА?
МНЕ ШКАДА...


...КАЛІ ТЫ ВЫЙДЗЕШ АДСЮЛЬ, ТО ВЫЙ-ДЗЕШ **СВАБОДНЫМ**...
...ТАМУ ШТО Я **ДАКАЖУ** ТВАЮ НЕВІНАВАТАСЦЬ.


НЕВІНАВАТАСЦЬ? АЛЕ Я Ж **СКАЗАЎ** ТАБЕ...
ЛЮДЗІ ІЛГУЦЬ... АЛЕ ДОКАЗЫ... НЕ.
УБАЧЫМСЯ Ў НАСТУПНЫМ ГОДЗЕ.
"АЧЫШЧЭННЕ..."



І ГЭТА БЫЛО СЛОВА, ДЗЯКУЮЧЫ ЯКОМУ Я ВЫЙГРАЎ. ТРОХІ СМЕШНА, КАЛІ ЎСПАМІНАЮ ПРА ГЭТА.

BELOVED MOTHER NORA ALLEN

МНЕ ЦЯБЕ ВЕЛЬМІ НЕ ХАПАЕ, МАЦІ.

Я ЎСЁ ЯШЧЭ НЯ ВЕРУ, ШТО БАЦЬКА МОГ ЗРАБІЦЬ З ТАБОЙ ТАКОЕ. НЕ ЛІЧУ, ШТО КАЛІ-НЕБУДЗЬ ПАВЕРУ.

SPELLING

АЛЕ МНЕ БОЛЬШ НЯ ТРЭБА, КАБ ЁН БЫЎ НЕВІНАВАТЫ. Я ПРОСТА ГЭТА ЖАДАЮ.

ЦЯПЕР Я БАЧУ СЭНС.

Я ВЕДАЮ, ШТО ЎСЁ, ШТО АДБЫЛОСЯ, УСЁ, ПРАЗ ШТО Я ПРАЙШОЎ...

МЕЛА НА ТОЕ СВАЕ ПРЫЧЫНЫ.

ДЗЯКУЮЧЫ ГЭТАМУ, Я СТАЎ ТЫМ, ХТО Я ЁСЬЦЬ.

А ХТО Я?

Я БАРЫ АЛЕН, САМЫ ХУТКІ ЧАЛАВЕК У СВЕЦЕ.

STORY BY FRANCIS MANAPUL & BRIAN BUCCELLATO
ART BY FRANCIS MANAPUL
COLORS BRIAN BUCCELLATO & IAN HERRING
LETTERS WES ABBOTT
ASSOCIATE EDITOR CHRIS CONROY
EDITOR MATT IDELSON

COMICS AT LAUGH LOUNGE

PROUDLY LIVE

Я – The FLASH

PRESENTS

BEFORE THE NEW 52...